окупаванай Зах. Беларусі. Усім беларускім міністрам, генэралам і дзеячом, якіх вытурыла Чырвоная армія і паўстаўшыя масы з Усходняй Беларусі і якія адкармліваліся дагэтуль пры польскім буржуазным карыце, было загадана з Варшавы распусьціць сябе і разыйсьціся дамоў.

Неўзабаве беларуская контр-рэволюцыя распарушваецца па закавулках капіталістычнай Польшчы, частка зьвівае гняздо на бела-эміганцкім дрэве-сухастоіне ў Празе, частка асядае ў Коўні і трымаецца падолу кулацкай Літвы.

Буржуазная Польшча, аднак, памылілася ў сваіх разьліках—за некалькі гадоў жудаснай капіталістычна-абшарніцкай окупацыі Зах. Беларусі шырокія працоўныя масы пад кіраўніцтвам КПЗБ разгарнулі магутную вызваленчую барацьбу. Асноўныя масы сялянства, нездаволеныя ўсё ўзмацняючымся соцыяльным і нацыянальным уціскам, зносячы жорсткія паліцэйскія рэпрэсіі, пайшлі за пролетарыятам Польшчы і Зах. Беларусі ў рэволюцыйны рух супроць буржуазнага ўраду, за аб'яднаньне з Савецкай Беларусьсю. Высокая хваля абурэньня працоўных мас, героічныя паўстанцкія выбухі, бурная сымпатыя і цяга да Савецкага Саюзу стварылі на так зван. усходніх крэсах вельмі напружанае палажэньне.

У той час у Савецкай Беларусі ва ўмовах нэпу адбывалася адбудоўчая работа пасьля імпэрыялістычнай і грамадзянскай войнаў. У гэты пэрыод, калі яскравы ўзрост беларускай культуры з яшчэ

недастатковым пролетарскім зьместам і калі ў адбудоўчы пэрыод пры разгортваньні соцыялістычнага будаўніцтва ішоў рост і капіталістычных элемэнтаў, хоць у значна меншай адноснай вазе—узрошчваліся ілюзіі ў буржуазіі Захаду—у тым ліку і ў беларускай—аб буржуазным перараджэньні савецкага ладу, аб нятрываласьці пролетарскай дыктатуры, аб банкроцтве комуністычнай ідэі.

У беларускай буржуазіі і яе ідэолёгаў нашаніўскіх правадыроў ілюзіі гэтыя, якія адносіліся пераважна да БССР, узмацняліся яшчэ тым, што ў Сав. Беларусі мала прамысловага пролетарыяту і па іхным няма вытрыманых старых беларускіх комуністых, што беларускі селянін «ня пойдзе ў комуну». Апрача таго, з прычыны недастатковасьці пролетарскіх беларускіх культурных сіл беларуская інтэлігенцыя займала віднейшыя пасты на культурным фронце ў БССР і хоць у рэчаістасьці выконвала службовую ролю, аднак кармілася ілюзіямі, што яна мае монополію на стварэньне беларускай культуры.

З прычыны далёка няспрыяючых адносін тагачаснай буржуазнай Польшчы да беларускіх буржуазных элемэнтаў, з прычыны росту ілюзій у буржуазнае перараджэньне БССР і высокага ўздыму рэволюцыйнае хвалі на Заходняй Беларусі сярод беларускай інтэлігенцыі Зах. Беларусі і эмігранцкай інтэлігенцыі пачынаецца зьмена орыентацыі на Ўсход, заігрываньне з рэволюцыйным рухам, маскіроўка пад запатрабаваньні часу, пачынаецца зьме-

навехаўства і падзел роляў. Частка яе датарноўваецца да нацыянальна-вызваленчага руху, частка капітулюе перад савецкай уладай і пераходзіць у Савецкую Беларусь, частка і далей адкрыта служыць верай і праўдай капіталістычнаму ладу.

Зьменавехаўцы ў Заходняй Беларусі ідуць пад лёзунгамі: ушыцца ў нацыянальна-вызваленчы рух, з тым, каб, спэкулюючы на галечы мас, выкарыстоўваючы іхняе нездавольства, вытаргоўваць сабе падачкі ў буржуазіі—пануючай нацыі, з тым, каб, прышчапляючы нашаніўскую буржуазную нацыяналістычную ідэолёгію працоўным масам, вырываць нацыянальна-вызваленчы рух з-пад кіраўніцтва пролетарыяту і яго компартыі, зьвесьці яго на шлях угоды і супрацоўніцтва з буржуазіяй у імя беларускай народнай рэспублікі, пры якой стане магчымай бесконкурэнцыйнай эксплёатацыя над працоўнымі масамі краю.

Ідучы-ж у БССР—займаць камандныя высоты і, дапасоўваючыся да савецкіх умоў, прышчапляць ідэолёгію адраджэнцкага руху і гэтым садзейнічаць хутчэйшаму буржуазнаму перараджэньню савецкага ладу. Надзвычайна яскравай і нахабнай формай прышчапленьня нашаніўскай ідэолёгіі на савецкім грунце было вывядзеньне карэньняў бальшавізму на Беларусі ад беларускага адраджэнцкага руху, стварэньне Савецкай Беларусі дзеячамі адраджэнцкага руху, вывядзеньне пераемнасьці зараджэньня сучаснай пролетарскай беларускай культуры ад Скарыны і Багушэвіча.

Беларуская інтэлігенцыя ў падаўляючай большасьці выхоўвалася «Нашай Нівай» і палітычна ўсьведамлялася ў беларускім нацыяналістычным руху. Аднак ня ўся гэтая інтэлігенцыя як тая, што асталася пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, так і тая, што пакінула контр-рэвалюцыйны лягер, працуючы цяпер у Савецкай Беларусі ці ў рэвалюцыйным лягеры Зах. Беларусі,—ня ўся яна трымае камень за пазухай, працуе з асьцярогай, з агаворкай. Шмат хто з яе, парваўшы канчаткова з нацыяналістычнай спадчынай «Нашай Нівы», ідзе да канца за пролетарыятам пад кіраўніцтвам компартыі, аддана працуючы ці на полі соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР, ці на фронце рэволюцыйнай барацьбы ў Зах. Беларусі,ператопліваючыся ў вагні клясавай барацьбы ў стойкіх рэволюцыянэраў, як, напрыклад, відныя нашаніўцы Бурбіс, а пасьля Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі і іншыя правадыры БСРГ.

Да слова трэба адзначыць, што БС-Р Грамада не зьяўляецца пераемнікам буржуазна-беларускага нацыяналістычнага руху, як гэта хочуць угаварыць масам нацыянал-дэмократы і нац.-фашыстыя. Грамада не пераняла і не выяўляла антыпролетарскую і антысялянскую традыцыю «Нашай Нівы». Грамада была шырокай масавай організацыяй беларускіх працоўных і эксплёатаваных мас, якія пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго компартыі вялі барацьбу супроць дыктатуры буржуазіі, польскай окупацыі, за рабоча-сялянскі ўрад, за зямлю бяз

выкупу, за нацыянальнае вызваленьне. Яна была новай арганізацыйнай больш масавай формай, існаваўшага яшчэ да заснаваньня Грамады беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, які кіраваўся і кіруецца пролетарыятам і яго компартыяй. Кіраўнікі Грамады, у большасьці сваёй быўшыя нашаніўцы, перайшлі ад буржуазнага нацыянальна-адраджэнцкага руху ў рэволюцыйны лягер і ня толькі рашуча парвалі са сваім нацыяналістычным мінулым, але стойка з ім змагаліся і змагаюцца. БС-Р Грамада ў працілежнасьць нашаніўскай буржуазнай пляцформе выстаўляла рэволюцыйныя сялянскія лёзунгі, якія ўзмацоўвалі рабоча-сялянскі саюз, завастралі клясавую барацьбу на вёсцы, вялі працоўныя масы за пролетарыятам і яго компартыяй супроць беларускай буржуазіі, супроць буржуазіі ўсіх нацыянальнасьцяй, за рабоча-сялянскі ўрад ва ўсёй Польшчы.

### 6. Актывізацыя беларускіх контр-рэволюцыйных сіл

У сучасны момант мы наглядаем праявы сярод беларускіх нацыяналістых, якія вельмі нагадваюць іх выступленьні 1917—1921 гг. і якія цяпер выступаюць на палітычную арэну, як нац.-дэмократы ў БССР і нац.-фашыстыя ў Зах. Беларусі.

Сконсолідаванае актыўнае выступленьне нац.-дэмократызму ў Сав. Беларусі ідзе поруч з надзвычайнай актывізацыяй і беларускага нац.-фашызму ў Зах. Беларусі. Тут у БССР мы наглядаем адкры-

тыя вылазкі нацыянал-дэмократызму супроць лініі партыі ва ўсіх галінах жыцьця Сав. Рэспублікі. Там у Зах. Беларусі нац.-фашызм, пад правадырствам Луцкевіча і пры дапамозе ўраду, організуе контр-рэволюцыйныя сілы і вядзе плянавае програмнае наступленьне на нац.-вызваленчы рух і падрыхтоўку да нападу на СССР. Як тут нац.-дэмократ гукне, дык там нац.-фашыст адгукнецца, як тут партыя ўдарыць па нац.-дэмократу, дык там нац.-фашыст завые з болю, паклёп Луцкевіча і К° на БССР і партыю перадаецца тут нац.-дэмократычным рупарам. І тут і там ідэалізуецца і выпучваецца гісторыя «Нашай Нівы», пропагандуюцца лёзунгі «рэволюцыйнага» нацыянальна-адраджэнцкага руху, разьдзьмухваецца розная лухта аб прасьледваньні беларусоў, аб маскоўскай няволі і г. д. Словам, ідзе пераклічка, устанаўліваецца абапольная палітычная агентура.

Пасьля таго, як польскі фашызм для больш пасьпяховай падрыхтоўкі да вайны і ўдушэньня рэволюцыйнага руху на Зах. Беларусі пайшоў на ўступкі беларускаму кулаку і падачкі беларускай інтэлігенцыі, пасьля таго, як у выніку рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты ў БССР лопнулі надзеі на крах бальшавізму, беларускія зьменавехаўцы на чале з Луцкевічам парываюць з нац.-вызваленчым рухам і дэманстратыўна паднімаюць нацыяналістычны сьцяг «Нашай Нівы»—беларускага адраджэнцага руху, інакш

кажучы, усё шпарчэй разгортваюць тую-ж контр-рэволюцыйную работу, абноўленую фашызмам, якую праводзілі пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі.

У БССР кулак, ліквідуемы як кляса, і нэпман выціскаемы з сваіх экономічных позыцый ня толькі адбіваюцца супроць наступленьня партыі «абрэзам» і пускаюць чырвонага пеўня, але і ў с ь ц я ж а г л я д в а ю ц ц а н а б у р ж у а з н ы З а х а д, н а ф а ш ы ц к у ю П о л ь ш у, чакаюць адтуль выручкі і дапамогі.

Гэтыя новыя праявы беларускіх нацыяналістых выяўляюць адбіцьцё тых процэсаў, якія адбываюцца ў іх соцыяльнай базе, а менавіта, у беларускай буржуазіі, у тым ліку і кулак, на Зах. Беларусі і ў кулака і нэпмана ў БССР, выяўляюць адбіцьцё тых політычных кірункаў, якія выкоўваюцца ў двух процілежных варожых канцавосьсях: капіталістычным сьвеце і СССР.

Шпарка ідзе консолідацыя сіл на двух процілежных канцавосьсях, у двух лягерах: рэволюцыйным і контр-рэволюцыйным; военная перадышка канчаецца, рыхтуецца рашучая схватка паміж нападаючым капіталістычным сьветам і СССР.

Для нацыянал-фашыстых і нац.-дэмократаў перадышка таксама канчаецца. Яны ўбачылі, што СССР праз НЭП пайшоў не да капіталізму, а да соцыялізму, што няма чаго ўжо ім спадзявацца,

што быццам магчыма мірным шляхам ператварыць БССР у «дэмократычную нацыянальную дзяржаву», яны, прымяняючы адпаведную да варункаў тактыку і формы барацьбы, працуюць не пакладаючы рук на карысьць контр-рэволюцыйнага лягеру—імпэрыялістычнага сьвету, яны рыхтуюцца да ўзбройнага паходу на БССР.

Нацыяналістычны лягер беларускай буржуазіі па абодва бакі граніцы, ня гледзячы на яго вонкавыя палітычныя адменнасьці, зьяўляецца адзіным лягерам беларускага нац.-фашызму, які ідзе пад гегемоніяй польскай буржуазіі ў шэрагах міжнароднага антысавецкага фронту. Надыходзячы момант усё ўзрастаючай небясьпекі ваеннага нападу на СССР з боку польскага імпэрыялізму ўсё больш консолідуе беларускую контр-рэволюцыю, якая па абодва бакі граніцы зьвязвае свае надзеі на зваленьне дыктатуры пролетарыяту ў БССР, задушэньне рэволюцыйнага руху Заходняй Беларусі і на стварэньне «беларускай народнай рэспублікі» пад ботам польскага імпэрыялізму. Там пролетарыят разгортвае контрнаступленьне, расьце па днях уплыў компартыі, у паветры чуецца надыход пролетарскай рэволюцыі. Тут социялістычнае будаўніцтва, выкарчоўваючы і нішчучы рэшткі капіталістычных карэньняў, ідзе сямімільнымі крокамі пяцігодкі да социялізму. Час ваеннай перадышкі канчаецца. Падзеі хуткім тэмпам разгортваюцца.

## 7. Альбо-альбо

Перад кожным інтэлігентам і тут і там за мяжой, асабліва гэта адносіцца да інтэлігенцыі, што выйшла з беларускага нац.-адраджэнцкага руху, і якая хоча працаваць на карысьць працоўных мас, стаіць дылема: з нац.-дэмократамі і нац.-фашыстамі, працягвацелямі беларускага адраджэнцкага руху, насіцелямі нашаніўскай ідэолёгіі, гэта значыць, з польскім фашызмам і з сусьветным імпэрыялізмам ці супроць іх разам з працоўнымі масамі, пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго партыі, за соцыялістычнае будаўніцтва, за Савецкі Саюз, за сусьветную пролетарскую рэволюцыю. Другіх прамежных шляхоў няма. Ня месца ніякім хістаньням, нельга ўжо адкараскацца аполітычнасьцю ці лояльнасьцю да савецкага ладу—патрэбен актыўны ўдзел, адданасьць да канца соцыялістычнаму будаўніцтву, патрэбен ход у нагу з пролетарыятам і адкрытая барацьба з ворагам компартыі і соцыялістычнага будаўніцтва.

Той з інтэлігентаў, з таго і гэтага боку мяжы, хто хоча быць удзельнікам у тварэньні беларускай пролетарскай культуры, удзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва працоўных мас, удзельнікам пролетарскай рэволюцыі ў Польшчы, а значыць і аб'яднаньня Заходняй Беларусі з Савецкай Беларусьсю,—павінен рашуча і неадкладна рэвізаваць свае палітычныя погляды, пазбыцца спадчыны беларускага адраджэнцкага руху, выкарчаваць

нацыяналістычныя карэньні буржуазнай ідэолёгіі «Нашай Нівы» і павясьці няшчадную барацьбу супроць рэцэдываў сваіх памылак, як і супроць розных ухілістых, якія імкнуцца скрывіць лінію партыі.

Кажу неадкладна, бо рэч вядомая, што тэмп социялістычнага будаўніцтва і рэволюцыйны ўздым на Захадзе ідуць па ўзрастальнай лініі і калі ня выявіць ясна сваіх суадносін цяпер, дык пасьля будзе позна. У цягнік, які імчыць па соцыялістычным шляху, нельга ўлезьці з нашаніўскім багажом. Компартыя, якая кіруе гэтым цягнікам, рашуча выкідвае нашаніўскі, буржуазны балast пад колы цягніка.

Таго, хто будзе адкрыта ці замаскавана шкодзіць соцыялістычнай працы рабочых і асноўных сялянскіх мас, хто сьвядома скрыўляе лінію партыі, партыя біла і будзе няшчадна біць да рэшты, да канца. Ня ўдасца ні нац.-фашызму ў Зах. Беларусі, ні іхным пабратымцам нац.-дэмократам у БССР дэзарыентаваць працоўныя масы тым, што быццам комуністыя прасьледуюць беларусоў. Партыя біла і будзе біць беларуса, яўрэя, вялікаруса і іншых не за тое, што яны той ці іншай нацыянальнасьці, а за тое, што той ці іншы з іх, стоячы на савецкай пляцформе ў інтарэсах кулака і нэпмана, тармазіць разгортваньне будаўніцтва соцыялізму, скрыўляе лінію партыі.

Сучасная эпоха патрабуе яснага азначэньня свайго становішча, сваіх суадносін да аднаго з

двух процілежных варожых лягераў, змагаючыхся на жыцьцё і сьмерць. Прымірэнцтва да ўхілаў і розныя хістаньні ідуць на карысьць ворага. І кожны, хто ня мае гэтай яснасьці ці ня хоча гэтай яснасьці, будзе адкінуты прэч ці стаптаны пераможным паходам соцыялістычнага будаўніцтва, якое пад кіраўніцтвам ленінскай УсеКП(б) набірае ўсё большы размах і паскораны тэмп.

## 8. Выразнасьць лініі і рашучасьць барацьбы

У барацьбе з нац.-дэмократызмам у многіх партыйцаў выяўляецца яшчэ опортуністычны падыход і прымірэнцтва. Прычына тут у буржуазна-кулацкім націску, у тым, што некаторыя комуністыя, прыйшоўшы ў партыю з нацыяналістычнага дробна-буржуазнага асяродзьдзя, ня выжылі яшчэ да канца нашаніўскай спадчыны, іншыя ня знаюць гістарычных карэньняў нац.-дэмократызму, а шмат дзе зьяўляецца прычынай і тая небальшавіцкая шкодная ўстаноўка, а іменна: глядзець праз пальцы на таго ці іншага нац.-дэмократа з яго варожай клясавай ідэолёгіяй, бо ён, бачыце, спэц па беларусазнаўству, ён піонэр беларускага рэнэсансу. І гэтым часта-густа скрыўляецца ленінская лінія ў нацыянальнай політыцы, гэтым об'ектыўна, а часам і суб'ектыўна, падтрымліваецца адзіны нацыянальны фронт з нац.-дэмократамі, асабліва ў галіне культурнага будаўніцтва. Справа ў тым, што капіталістычныя элемэнты, выцісканыя з гас-

падарчых позыцый, імкнуцца, асабліва цяпер, выкарыстаць ідэолёгічна культурны фронт з мэтай акапацца там супроць пролетарыяту і яго компартыі. Старая чорнасоценная профэсура, сынкі нэпманаў і кулакоў, якім удалася ашукаць савецкую ўладу і стаць савецкімі спэцамі, некаторыя вэтэраны «Нашай Нівы»—вось стаўленьнік і нэпмана і кулака, якія, ня гледзячы на сваю нацыянальнасьць, аднадушна стараюцца ўтрымаць лахманы сьцягу канаючага капіталізму ў СССР.

Вось чаму, каб пасьпяхова праводзіць нацыянальнае будаўніцтва, як складовую частку соцыялістычнага будаўніцтва, каб плянава тварыць беларускую культуру, вырастаючай карэньнямі з інтэрнацыянальнага пролетарскага асяродзьдзя, трэба адначасова няшчадна біць і вялікарускі, яўрэйскі, польскі шовінізмы, якія часта, выкарыстоўваючы барацьбу партыі супроць беларускіх нац.-дэмократаў, замаскавана праводзяць сваю антыпролетарскую работу.

Ідэолёгічна-культурны фронт, асабліва ва ўмовах БССР, патрабуе цьвёрдага вытрыманага кіраўніцтва з боку партыі. Трэба на кожным кроку сабе ўяўляць, што выразнасьць клясавай лініі ў кіраўніцтве ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва цяпер патрэбна захаваць з надзвычайнай стойкасьцю і бальшавіцкай упорлівасьцю. Іменна гэта неабходна цяпер, калі авангард рэволюцыі і соцыялістычнага будаўніцтва—пролетарыят і яго компартыя з нячуваным яшчэ ўздымам разгорт-

ваюць контр-наступленьне там за савецкай мяжой, з нябывалым энтузіязмам разгортваюць тут тэмп соцыялістычнага будаўніцтва, калі гэтаму авангарду ў недалёкай будучыні прадстаіць азначыць у вялікіх баёх новы гістарычны этап на шляху сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.

У барацьбе супроць нац.-дэмократызму трэба мець на ўвазе, што ў меру больш жорсткага наступленьня на кулака і нэпмана, у меру завастрэньня клясавай барацьбы, нац.-дэмократызм будзе больш нахабна выступаць супроць лініі партыі, будзе адбывацца больш выразна і шчыльна ідэолёгічнае зрастаньне з нац.-фашызмам і польскім фашызмам, адбывацца больш выразна і шчыльна координацыя іх дзейства.

Братняя КПЗБ на нядаўна адбыўшымся III пленуме, заклікаючы свае падпольныя парторганізацыі «ўдзяліць асаблівую ўвагу дэмаскаваньню контр-рэволюцыйнай сутнасьці беларускага нац.-дэмократызму ў БССР», ставіць выразныя дырэктывы аб барацьбе супроць нац.-фашызму ў Зах. Беларусі.

> »Партыя павінна ўкараніць у сьвядомасьць беларускіх працоўных мас, што барацьба з фашыцкай окупацыяй не аддзяліма ад барацьбы з беларускай буржуазіяй і выяўляючым яе інтарэсы беларускім нацыянал-фашыцкім лягерам, што бяз гэтай барацьбы ня можа быць пасьпяхова разьвязана задача ні

соцыяльнага, ні нацыянальнага вызваленьня беларускіх працоўных мас.

Партыя наша павінна яскрава ўсьвядоміць сабе, што галоўная небясьпека ў справе заваяваньня беларускіх працоўных мас, а таксама ў галіне перамаганьня хістаньняў у шэрагах нац. вызваленчага руху, ідзе з боку беларускага нац.-фашызму і яго рознастайнасьці — беларускага нацыянал-дэмократызму ў БССР, і таму галоўны агонь барацьбы на даным вучастку і даным пэрыодзе павінен быць накіраваны ў гэты бок».

Перад узрастальнай актывізацыяй беларускага нац.-дэмократызму і яго цясьнейшага палітычнага і ідэолёгічнага зрастаньня ды каардынацыі дзейства з нац.-фашызмам, партыя павінна, узмацняючы беларусізацыю, узмоцніць барацьбу супроць беларускага нац.-дэмократызму, даваць самы рашучы адпор, накіроўваць галоўны агонь барацьбы супроць усіх яго вылазак, а таксама і прымірэнцтва да яго.

. . . . . . . . . . . . . .

---

# ТЭОРЫЯ І ПРАКТЫКА БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛ-ФАШЫЗМУ [1])

## 1. Прычыны актывізацыі агентаў фашызму

Белы тэрор, турма народаў, хранічныя крызісы, форпост імпэрыялізму—вось тыя характэрныя адзнакі, якія даюць агульнае разуменьне аб сучаснай фашыцкай Польшчы. Сьпечаная антантаўскімі дыплёматамі на вэрсальскай палітычнай кухні, Польшча стала пляцдармам сусьветнага імпэрыялізму ў падрыхтоўваемай праз яго контр-рэвалюцыйнай вайне супроць СССР.

Экономічныя чыньнікі пры заснаваньні Польшчы былі падпарадкаваны заборчай палітыцы міжнародных і краёвых імпэрыялістых, падпарадкаваны міжнародным дыплёматычным комбінацыям. Вось чаму зусім натуральна, што пасьлявэрсальская Польшча пры сваёй палітыцы вайны, эксплёатацыі і прыгнечаньня перажывае хранічныя гаспадарчыя крызісы.

Сучасны крызіс Польшчы мае ў сабе значна больш вострыя формы, чым папярэднія яе крызісы, бо выцякае з непараўнальна глыбейшых супярэчнасьцяй капіталістычнай гаспадаркі Польшчы і зьяўляецца адбіцьцём усё паглыбляючагася су-

[1]) Артыкул друкаваўся ў „Полымі“. 1930 г. № 2.

сьветнага гаспадарчага крызісу, у ціскох якога корчацца капіталістычныя дзяржавы ўсяго сьвету.

Польшча—найбольш слабое зьвяно ў ланцугу капіталістычных дзяржаў і дзеля таго ў ёй з асаблівай вачавіднасьцю і яскравасьцю наглядаюцца тыя адзнакі, якія характарызуюць трэці пэрыод пасьляваеннага крызісу капіталізму. Расхістваньне і расклад капіталістычна-абшарніцкай гаспадаркі, бурны ўздым рэволюцыйнай хвалі, пашырэньне ўплыву компартыі, разгул белага тэрору—вось якімі праявамі жыве сучасная Польшча, вось чым багаты дні нядоўгавечнага існаваньня фашыцкай дыктатуры.

У гэты час, калі ў капіталістычным сьвеце буржуазная гаспадарка корчыцца ў конвульсыйных схватках крызісу, дык у СССР працоўныя масы пад кіраўніцтвам УсеКП(б) ня толькі даганяюць з боку тэхнічнага перадавыя капіталістычныя краі, але на шмат якіх вучастках пераганяюць, а ў цэлым нячувана шпаркім тэмпам будуюць социялізм, ідуць да социялізму.

Міжнародны капітал бачыць у Савецкім Саюзе, у яго нячувана шпаркім тэмпе індустрыялізацыі краю і колектывізацыі сельскай гаспадаркі прычыну прычын сваіх гаспадарчых і палітычных крызісаў, росту рэволюцыйнага ўздыму працоўных мас.

Нябывалы дагэтуль выбух антысавецкай міжнароднай кампаніі зьяўляецца выразьнікам завастрэньня інтэрвэнцыйных імкненьняў імпэрыялістых,

накіраваных да таго, каб узброенай сілай выбіць з рук пролетарыяту і яго ленінскай партыі соцыялістычную перабудову СССР.

Фашыцкая Польшча, зьяўляючыся форпостам міжнароднага імпэрыялізму, тым больш выяўляе агрэсыўнасьць і сьпешна куе зброю супроць вогнішча міжнароднай рэволюцыі—Савецкага Саюзу.

Падаўленьне ўзросту рэволюцыйнай хвалі і падрыхтоўкі вайны зьяўляюцца цяпер галоўнейшымі ўдарнымі задачамі, асновай асноў усёй політыкі фашыцкага лягеру капіталістых, абшарнікаў усіх нацыянальнасьцяй Польшчы і кулакоў і іх фашыцкай дыктатуры. Найбольш адказныя і важныя вучасткі гэтай політыкі фашыцкага ўраду, вучасткі акопаў супроць наступленьня пролетарыяту, займаюць соцыял-фашыстыя і нацыянал-фашыстыя. Зьяўляючыся неад'емнай складанай часткай фашыцкага лягеру, гэтыя агенты фашызму разумеюць, што пролетарская рэволюцыя нямінуча пакончыць і з іх існаваньнем. Клясавыя абавязкі, ускладзеныя на соцыял-фашыстых і нацыянал-фашыстых іхнай соцыяльнай базай, іхняя контррэволюцыйная роля, з аднаго боку, і нарастаньне контр-наступленьня пролетарыяту, набліжэньне рашучых клясавых баёў з другога, выклікаюць ажыўленьне дзейнасьці гэтых агентаў фашызму. Ідзе зацятая барацьба да канца—клясы супроць клясы, барацьба між фашызмам і комунізмам—хто каго. У гэтай барацьбе соцыял- і нацыянал-фашыстыя як найбольш спрактыкаваныя ў

ідэолёгічнай барацьбе і якія непасрэдна стаяць у масах, зьяўляюцца найбольш пакладзістымі сіламі фашызму, ударнымі атрадамі фашыцкай дыктатуры ў яе барацьбе з комуністычным рухам за працоўныя масы.

Тое асаблівае ажыўленьне дзейнасьці агентаў фашызму (ППС, Бунд, беларускія і украінскія нацыянал-фашыстыя), якое выяўляюць яны ў апошнія часы, зьяўляецца лепшым паказальнікам набліжэньня пролетарскай рэволюцыі, заблытанасьці і труднасьці палажэньня фашыцкай Польшчы, паказальнікам расхістваньня ўстояў фышыцкай дыктатуры і сьпешнасьці падрыхтоўкі яе крыжовага паходу на край саветаў.

Об'ектыўнымі прадпасылкамі крысталізацыі і ўзмоцненай дзейнасьці беларускага нацыянал-фашызму зьяўляюцца:

1) Абвастрэньне клясавай барацьбы ў ЗБ, рост рэволюцыйнай актыўнасьці пролетарыяту і асноўнай масы эксплёатаванага сялянства і ўсё большая консолідацыя нацыянальна - вызваленчага руху пад кіраўніцтвам КПЗБ.

2) Абвастрэньне клясавай барацьбы ў БССР у выніку пераможнага соцыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і рост праяваў нацыянал-дэмократызму, як адбітак і вынік абвастрэньня барацьбы беларускага нэпманства, кулацтва і

буржуазнай контр-рэволюцыйнай інтэлігенцыі супроць савецкай улады. Абвастрэньне ўнутраных і замежных супярэчнасьцяй капіталістычнай стабілізацыі змушае буржуазію, у тым ліку і беларускую, згуртаваць усе сілы для таго, каб ажыцьцявіць спробы, знайсьці выхад са створанай сытуацыі шляхам вайны з СССР.

(III пленум ЦК КПЗБ).

Сказанымі вышэй прычынамі трэба тлумачыць і тую стараннасьць і адданасьць у паслугах фашыцкаму ўраду з боку беларускіх нацыянал-фашыстых, якімі верхаводзіць вядомы палітычны махляр А. Луцкевіч.

Нядаўні напад банды галаварэзаў з беларускіх фашыцкіх студэнтаў у Вільні на ўстановы беларускага нацыянальна-вызваленчага руху мае аграмаднае палітычнае значэньне, дае яскравую палітычную навуку. Гэты напад паказвае на непраходную глыбіню распластаваньня ў беларускім народзе, паказвае аб поўным зросьце беларускай буржуазіі і кулацтва з польскімі багатымі клясамі, зросьце беларускіх нацыянал-фашыстых з апаратам фашыцкай дыктатуры, паказвае аб вастрыні клясавай барацьбы на Заходняй Беларусі. Ідзе на жыцьцё і на сьмерць барацьба клясы супроць клясы.

Беларускія багатыя клясы і іх ідэолёгі нацыянал-фашыстыя актывізуюцца, бо гэтага патра-

буюць клясавыя інтарэсы іх і польскай буржуазіі, патрабуе політычнае становішча фашыцкай Польшчы, патрабуе імпэрыялізм буржуазіі ўсіх нацыянальнасьцяй Польшчы. Душыць рэволюцыйны рух, біць комуністых, рыхтаваць «крыжовы паход» супроць СССР—вось ударныя лёзунгі, пад якімі ідзе на Заходняй Беларусі адзіным клясавым фронтам буржуазія польская, беларуская, яўрэйская і іх агенты польскія, беларускія і яўрэйскія соцыял-і нацыянал-фашыстыя.

Белы тэрор становіцца ўсё больш адзінай зброяй фашыцкага ўраду ў яго політыцы вайны, эксплёатацыі і прыгнячэньня. Кожная частка фашыцкага лягеру мобілізуе цяпер усе свае сілы і здольнасьці, каб прыняць пасільны ўдзел у ліквідацыі «крамолы», у падрыхтоўцы вайны супроць СССР, «успакаеньні крэсаў» як пляцдарму ў надыходзячай антысавецкай вайне.

Беларускія нацыянал-фашыстыя ў першых шэрагах фашыцкага лягеру на Зах. Беларусі—яны паміма цкаваньня і провокацыі, ладзяць контррэволюцыйныя пагромы. Беларускі нацыянал-фашызм, бачачы, што рабочыя і сялянскія масы ўсё больш горнуцца пад рэволюцыйны сьцяг нацыянальна-вызваленчага руху і яго кіраўніка компартыі, рашылі актыўным паліцэйскім тэрорам выступіць у абарону фашыцкай дыктатуры. Нацыянал-фашыстыя выступілі з пагромам нацыянальна-вызваленчага руху пад лёзунгамі адказу з іх боку на ліквідацыю кулака, як клясы ў БССР,

на жорсткую пераможную барацьбу супроць нацыянал-дэмократызму. Наладзіўшы першы адкрыты контр-рэвалюцыйны пагром, яны здалі экзамен перад фашыцкім урадам на здольнасьць арганізаваньня беларускіх фашыцкіх баёвак, на манэр пэпээсаўскіх і стралецкіх баёвак, ужо ня раз макаўшых свае рукі ў крыві рабочых і сялянскіх мас.

Фашызм, спускаючы гэтых сабак з ланцугу, дае сыгнал да далейшых, больш шырокіх пагромаў нацыянальна-вызваленчага рэвалюцыйнага руху рабочых і працоўнага сялянства. Фашыцкі ўрад, каб замаскаваць сваю палітыку нацыянальнага і соцыяльнага прыгнячэньня працоўных мас Зах. Беларусі, палітыку разгрому беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, выкарыстоўвае, як мы бачым, беларускіх нацыянал-фашыстых, якія ў даным выпадку, праводзячы паліцэйскі фізычны тэрор, выконваюць ролю паліцыі.

Дзеля таго, што Луцкевічаўская група стаіць у пярэдніх шэрагах контр-рэвалюцыйнага лягеру на ЗБ, што яна зьяўляецца ідэолёгічным цэнтрам, концэнтруючым ядром і найбольш актыўнай групай беларускага нац.-фашызму, затрымаемо ўвагу чытача іменна на тэорыі і практыцы гэтага найбольш ваяўнічага атраду фашызму на Зах. Беларусі.

## 2. Соцыяльная база беларускіх нац.-фашыстых

Ажыўленьне дзейнасьці беларускага нацыянал-фашызму выцякае з экономічнага разгортваньня

ягонай соцыяльнай базы, а іменна беларускай буржуазіі і кулацтва—выцякае з росту агрэсыўнасьці гэтай буржуазіі ў адносінах да БССР, з росту падрыхтоўкі ўзброенага нападу на СССР з боку польскага і сусьветнага імпэрыялізму.

Фашыцкі ўрад, праводзячы сваю палітыку на Зах. Беларусі (аграрную, падатковую, крэдытовую, вайны, эксплёатацыі і інш.), мае на мэце ўзмацняць сваю соцыяльную базу коштам эксплёатацыі рабочае клясы, руйнаваньня бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак. Усе мерапрыемствы ўраду маюць на мэце садзейнічаць капіталістычнаму разьвіцьцю абшарніцкіх, кулацкіх і асадніцкіх гаспадарак. Пашыраючы сваё зямлякарыстаньне пры дапамозе зямельнай і крэдытовай палітыкі фашызму, кулацтва стала пераводзіць сваё гаспадарства на капіталістычныя рэйкі, бязьмежна эксплёатуючы згаладаную, зруйнаваную асноўную масу сялянства. Абрастае ў пер'е і беларускі купец. Галоўнае, што паслужыла гаспадарчаму ўзмацаваньню беларускага кулака—гэта дапушчэньне яго да ўздыму ў парцэляцыі, а таксама правядзеньне камасацыі і ліквідацыі сэрвітутаў.

Тэмп прыватнай і ўрадавай парцэляцыі пасьля фашыцкага перавароту ў 1926 г. шпарка расьце на Зах. Беларусі: у 1925 г. распарцэлявана на Зах. Беларусі 51.288 га, 1926 г.—54.035 га, 1927 г.—77.537 і 1928 г.—без Навагрудчыны—64.082 га. У гэты-ж час значна аслабляецца тэмп асадніцтва

на крэсах. У 1925 г. выдзелена парцэляванай зямлі для асаднікаў 15.044 га. 1926 г.—8.240 га, 1927 г.—1.333 га, у 1928 г. ніжэй тысячы. З такога шпаркага павялічэньня плошчы парцэляванай зямлі праз прыватную, а таксама і ўрадавую парцэляцыю і зьмяншэньня тэмпу асадніцтва зусім вачавідна выплывае той аграмадны ўдзел у парцэляцыі мясцовага, пераважна беларускага, кулака, які быў дапушчаны да гэтай парцэляцыі, пасьля 1926 г.

Тэмпы правядзеньня мерапрыемстваў па зямляўпарадкаваньні надзвычайна ўзрасьлі пасьля фашыцкага перавароту 1926 г. Калі ўзяць усю скамасаваную зямлю ў Польшчы ў г. г. 1918—1928 за 100, дык на 1918—1925 г. прыпадае 22,6 проц, а на 1926—1928 (9 месяцаў) гг.—77,4 проц. Характэрна адзначыць дынаміку камасацыі пры фашыцкім рэжыме: 1926 г.—15,5 проц., 1927 г.—27,8 проц., 1928 (9 месяцаў) г. 34,3 проц. Пры гэтым скамасаваная зямельная плошча ў Зах. Беларусі складае палову скамасаванай плошчы ўсёй Польшчы. Вышэй даныя гавораць аб тым, што фашызм ідзе форсіраваным тэмпам на ўзмацаваньне сваёй сацыяльнай базы і апоры капіталістычна-абшарніцкай окупацыі на Зах. Беларусі, як пляцдарму перад надыходзячай вайной супроць СССР.

Тое-ж самае наглядаецца і з ліквідацыяй сэрвітутаў. За 1919-1925 гг. зьліквідавана сэрвітутаў 19,7 проц. ва ўсей Польшчы, за час ад 1919 г. да 1928 г., а ў 1926-28 гг. аж 80,3 проц. Тэмп ліквіда-

цыі сэрвітутаў таксама шпарчэйшы на Зах. Беларусі.

Зьліквідавана ў гектарах.

| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|---|---|
| З. Б. . . | 5.276 | 12.406 | 20.549 | 49.746 |
| Польшча . | 18.928 | 42.861 | 82.882 | 108.373 |

Крэдытовая палітыка, якая таксама абслугоўвае абшарнікаў, асаднікаў і кулакоў, значна ўзрасла пры фашыцкім рэжыме.

Узмацненьню сельскай буржуазіі служыць хронічны голад на Зах. Беларусі, тое руйнаваньне вытворчых сродкаў бедняка і серадняка, іх непамерна вострая паўпэрызацыя. Даволі сказаць, што 14 проц. усіх гаспадарак ня мае ні каня, ні каровы, а да 15 проц. мае толькі адну карову, каб прадставіць усю галечу працоўнай вёскі. Адгэтуль беспрацоўе, эканомічная залежнасьць ад вясковых багацеяў, жорсткая эксплёатацыя і кабала праз абшарнікаў і кулацтва і пераход зямлі і інвэнтару асноўных мас сялянства ў рукі вясковых багацеяў.

Бясспрэчна, што гаспадарчы крызіс адбіваецца на інтэнсіфікацыі буйных і кулацкіх гаспадарак. гэта відаць са зьмяншэньня попыту на штучныя ўгнаеньні ў 1929 г. у параўнаньні з 1928 г.—попыт на паташ зьменшыўся на 34 проц., а на фосфарнае ўгнаеньне на 40 проц. Зьменшыўся і ўвоз сельска-гаспадарчых машын.

Аднак, недахопы і прарэхі ў абшарніцкіх і кулацкіх гаспадарках у зьвязку з крызісам вясковыя

эксплёататары і ліхвяры імкнуцца пакрыць узмоцненым наступам на сельскі пролетарыят і паўпролетарыят. А рост рэволюцыйных настрояў працоўных беларускіх мас і наступленьне пролетарыяту, ліквідацыя кулака як клясы ў СССР, паход соцыялістычнага будаўніцтва сямімільнымі крокамі пяцігодкі, росквіт беларускай пролетарскай культуры яшчэ цясьней будзе зьнітоўваць беларускую буржуазію і кулацтва і іх ідэолёгаў нацыянал-фашыстых з фашыцкім лягерам, будзе выклікаць усё больш ажыўленую контр-рэволюцыйную іх дзейнасьць.

### 3. Фашыцкі клёк тэорый А. Луцкевіча

Тэорыі А. Луцкевіча, як ідэолёга беларускай буржуазіі (у тым ліку і кулацтва) політычна афармляючага яе мэты і імкненьні, зьяўляюцца працягваньнем і разьвіцьцём тэорый выплываючых з яго доўгай згодніцкай контр-рэволюцыйнай практыкі. Галоўны агонь і ўся «філёзофія» А. Луцкевіча заўсёды былі накіраваны супроць рэволюцыі, дыктатуры пролетарыяту і яго компартыі. Свае тэорыі і практыку Луцкевіч заўсёды дапасоўваў да вымаганьняў і інтарэсаў беларускіх заможных клясаў. Ён у часы (1917—20 гг.) ваенных інтэрвэнцый і ўзброенага змаганьня супроць соцыялістычнай Кастрычнікавай рэволюцыі выступаў з адкрытым забралам у перадавых шэрагах контр-рэволюцыі. У час настаўшай ваеннай перадышкі Луц-

кевіч панырае замаскаваным агентам буржуазіі і провакатарам у гушчу працоўных мас, змагаючыся за сваё соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. Цяпер у час заборчага мілітарыцкага шалу імпэрыялістых, напярэдадні выбуху новай крывавай бойні супроць пролетарскай дзяржавы, тэорыі Луцкевіча поўнасьцю адбіваюць і старанна выконваюць соцыяльны заказ імпэрыялістычных апякуноў, адбіваюць клясавыя інтарэсы беларускага абшарніка, кулака, купца, прамыслоўца. Ён стары нашанівец, прайшоўшы провакатарскую школу пры фашыцкім рэжыме, улічваючы існаваньне Савецкай Беларусі і шырокі ўплыў компартыі на Зах. Беларусі, ужывае абноўленыя мэтоды ў сваёй практыцы, практыцы значна ажыўленай, якая апіраецца на ўзмоцненую соцыяльную базу, і падпіхаецца організаваным антысавецкім блёкам міжнародных акул.

Нас перш-на-перш цікавіць, якім таварам аздабляе А. Луцкевіч палічкі сваёй крамкі, каб завабіць масы бліжэй да фашызму і на якую прыманку ён ловіць масы ў сваю фашыцкую мышалоўку. У органе авангарду беларускіх нацыяналфашыстых «Наперад» любімая нотка Луцкевіча— гэта гаварыць ад імя прыгнечанай беларускай нацыі, плакацца аб разьбіваньні праз комуністых адзінага нацыянальнага фронту, трызьніць аб беларускай народнай рэспубліцы. Буржуазным нацыяналізмам прасьмярдзеў кожны радок гэтай газэціны. Вось некалькі вынятак, якія паказваюць

сапраўдны твар ягомасьці Луцкевіча і зьмест яго нацыяналістычных «тэорый».

Сьвядомая нацыянальна-беларуская радыкальная інтэлігенцыя лічыць **змаганьне за нашыя правы на культурна-нацыянальным фронце** за найважнейшую ў сягонешніх варунках жыцьця справу. Менавіта на гэтым фронце беларусам сягоньня даводзіцца адлюстроўваць найвялікшы націск усіх рознаколерных і рознаязычных ворагаў нашага нацыянальнага адраджэньня і вызваленьня. («Наперад» № 4, 1930 г.) (невыпадкова гэты агент польскага фашызму замоўчвае пытаньне экономічнага парадку ды соцыяльнага вызваленьня.—Ст.).

— «Пад гул гарматных стрэл, ад якіх валіліся ў пыл тры вялізарныя монархіі: Расійская, Нямецкая і Аўстрыяцкая,—здабылі сабе дзяржаўную незалежнасьць. І тыя-ж чэхі, і літвіны, і латышы, і эстонцы, і палякі, і фінляндцы. І толькі беларусы ды украінцы аказаліся менш шчасьлівымі за другіх: бо, з аднаго боку, дужэйшыя суседзі іх былі лішне ўжо зацікаўлены ў падняволеньні і падзеле іх між сабою, з другога боку, далёка ня ўсе 10 мільёнаў беларусаў і 30 мільёнаў украінцаў мелі неабходную нацыянальную сьвядомасьць, без якое немагчыма Воля. («Наперад» № 6, 1930 г.).

Буржуазія ўжывае розныя формы нацыяналізму для сваіх клясавых інтарэсаў, яна нацыяналістычнай пропагандай затушоўвае клясавыя супярэчнасьці ў народзе, распальвае нацыянальны антагонізм для аслабленьня клясавай барацьбы, для адцягваньня працоўных мас з-пад інтэрнацыянальнага вызваленчага сьцягу компартыі.

Ваяўнічы шовінізм—гэта абстуканая і ўжо даволі ненадзейная зброя фашызму, як прыгнечаных так і прыгнятальных нацыянальнасьцяй. Італьянскія фашыстыя, праводзячы наступленьне капіталізму на рабочую клясу, крычалі ў вушы ўсім пакрыўджаным, прыгнечаным і эксплёатаваным аб «сьвятым адзінстве», аб «папсутай пабедзе», аб «велічы італьянскай нацыі». Для нямецкіх фашыстых прыкрыцьцём іх буржуазнага аблічча і клясавай барацьбы паслужылі лёзунгі за адбудову «вялікай» Нямеччыны, за рэванш Францыі.

Адкрытаму беларускаму шовінізму ва ўмовах сучаснай Заходняй Беларусі няма вялікага размаху сярод шырокіх працоўных мас. Беларускаму нацыянал-фашызму пры наяўнасьці шырокага ўплыву компартыі на працоўныя масы ў Зах. Беларусі, пры сумежным існаваньні і росквіце вольнай Савецкай Беларусі ня прыдзецца пажынаць лаўраў сваіх перамог. Бо трудна супроцьставіцца ясным і зразумелым для мас лёзунгам компартыі, што нацыянальнае прыгнечаньне ёсьць складаная частка прыгнечаньня пролетарыяту і ўсяго капіталістычнага рэжыму, што няма нацыянальнага

вызваленьня без соцыяльнага, што нацыянальнае пытаньне не зьяўляецца надклясавым пытаньнем і яно можа быць выращана толькі шляхам пролетарскай рэволюцыі, толькі пры дыктатуры пролетарыяту, як гэта мае месца ў СССР.

Стары згоднік і прайдзісьвет Луцкевіч, прыкрываючыся нацыяналізмам, як ідэолёгічнай заслонай, хоча ўгаварыць працоўныя масы Зах. Беларусі, быццам у рамках капіталістычнага ладу Польшчы можна стварыць сваю бацькаўшчыну «лепшую будучыню і поўнага свайго расьцьвету». Аднак гэтая заслона шыта белымі ніткамі, бо калі Луцкевіч і ўсе іншыя нацыянал-фашыстыя выступаюць у абароне ўсяго беларускага народу, выпучваючы свой «надклясавы патрыотызм» і адначасна з пенай на губах накідваюцца на пролетарскую рэспубліку—Савецкую Беларусь, дык гэтым выдаюць з галавой буржуазны фашыцкі клёк сваіх тэорый. Опэруючы падношанымі лёзунгамі аб адзінстве інтарэсаў усяго беларускага народу, нацыянал-фашыстыя хочуць усыпіць клясавую чуйнасьць працоўных мас, адцягнуць іх ад рэволюцыйнай барацьбы, ад уплыву компартыі. Кожны, хто за клясавую барацьбу ў абароне інтарэсаў рабочых і працоўнага эксплёатаванага сялянства, хто за рэволюцыйны рух і ўвязку яго з міжнароднай соцыялістычнай рэволюцыяй, хто стаіць у абароне Савецкай Беларусі, як сваёй бацькаўшчыны, тых Луцкевічаўская група і ўсе нацыянал-фашыстыя абвяшчаюць ворагамі беларускага народу,

